# ПАСЛАННЕ СВЯТОГА ЯКУБА

## 1 (1-27)

[1]Якуб, слуга Бога і Пана Езуса Хрыста, вітае дванаццаць плямёнаў у
дыяспары.
[2]Браты мае, калі трапляеце ў разнастайныя выпрабаванні, з вялікай
радасцю прымайце гэта. [3]Бо ведаеце, што выпрабаванне веры вашай нараджае
цярплівасць. [4]А цярплівасць няхай будзе дасканалая, каб вы былі дасканалыя і
беззаганныя, ні ў чым не маючы недахопу.
[5]Калі некаму з вас нестае мудрасці, няхай просіць у Бога, які шчодра дае
ўсім і не дакарае, — і будзе дадзена яму. [6]Але няхай просіць з вераю і не
сумняваецца, бо той, хто сумняваецца, падобны да марской хвалі, якую
ўздымае і кідае вецер. [7]І няхай гэты чалавек не думае, што атрымае нешта ад
Пана, [8]як чалавек двудушны, нясталы ва ўсіх шляхах сваіх.
[9]Няхай хваліцца брат прыніжаны ўзвышэннем сваім, [10]а багаты —
прыніжэннем сваім, таму што праміне, як цвет травы. [11]Бо ўзышло сонца і
спёкай высушыла траву, і цвет яе апаў, і прыгажосць яе знікла — так і багаты
завяне на сваіх шляхах. [12]Шчаслівы чалавек, які вытрымлівае выпрабаванне, бо,
калі будзе выпрабаваны, атрымае вянец жыцця, які Бог абяцаў тым, хто любіць
Яго.
[13]Падчас выпрабавання няхай ніхто не кажа, што Бог выпрабоўвае яго,
таму што Бога нельга выпрабаваць злом і сам Ён не выпрабоўвае нікога. [14]Але
кожны выпрабоўваецца ўласнай пажадлівасцю, якая прыцягвае і зводзіць.
[15]Зачаўшы, яна нараджае грэх, а калі грэх саспее, ён нараджае смерць.
[16]Таму не дазваляйце сябе звесці, браты мае ўмілаваныя. [17]Усялякае
дараванне добрае і ўсялякі дасканалы дар паходзіць звыш ад Айца святла, у
якога няма зменлівасці або ценю змены. [18]Пастанавіўшы, нарадзіў нас Айцец
словам праўды, каб мы былі пэўным пачаткам Ягоных стварэнняў.
[19]Ведайце, браты мае ўмілаваныя: няхай кожны чалавек слухае з ахвотай,
але не будзе ахвочы да размоў, не будзе ахвочы да гневу. [20]Бо чалавечы гнеў не
здзяйсняе справядлівасці Божай. [21]Таму адкіньце ўсялякую нячыстасць і
празмерную злосць і прыміце з пакораю пасеянае ў вас слова, якое можа
збавіць вашыя душы. [22]Будзьце ж выканаўцамі слова, а не толькі слухачамі, якія
падманваюць саміх сябе. [23]Бо той, хто слухае слова, а не выконвае яго, падобны
да чалавека, які разглядае твар свой у люстэрку: [24]прыгледзеўся да сябе,
адышоў і адразу забыўся, якім быў. [25]Аднак той, хто пранікае ў дасканалы
закон свабоды і трывае ў ім не як забыўлівы слухач, але як чынны выканаўца,
той шчаслівы будзе ў тым, што робіць.
[26]Калі хто лічыць сябе пабожным, не ўтаймоўваючы свайго языка, але
зводзячы сваё сэрца, то марная пабожнасць ягоная. [27]Чыстая і беззаганная
пабожнасць перад Богам і Айцом — гэта наведванне сіротаў і ўдоваў у нядолі
іхняй і захаванне сябе незаплямленым светам.

## 2 (1-26)

[1]Браты мае, не зважаючы на асобы, майце веру ў Езуса Хрыста, нашага
Пана хвалы. [2]Бо калі на сход ваш прыйдзе чалавек з залатым пярсцёнкам, у
бліскучым адзенні, і ўвойдзе таксама бедны ў бруднай вопратцы, [3]і вы
паглядзіце на апранутага ў бліскучае адзенне, і скажаце яму: «Ты сядай тут, на
добрае месца», а беднаму скажаце: «Ты стань там ці сядай тут, каля падножжа
майго», [4]то ці ж не робіце адрозненне між вамі самімі і не становіцеся суддзямі
са злымі думкамі?

[5]Паслухайце, браты мае ўмілаваныя. Ці ж не бедных свету выбраў Бог як
багатых вераю і спадкаемцаў Валадарства, якое Ён абяцаў тым, хто любіць Яго?
[6]А вы пагардзілі бедным. Ці не багатыя прыгнятаюць вас, ці не яны цягнуць вас
у суды, [7]ці не яны ганьбяць добрае імя, якім вы названы? [8]Калі аднак
выконваеце каралеўскі закон паводле Пісання: «*Любі бліжняга свайго, як
самога сябе*», — добра робіце. [9]Калі ж зважаеце на асобы, то чыніце грэх, а
Закон асуджае вас як злачынцаў. [10]Бо кожны, хто захоўвае ўвесь Закон, а
зграшыў у нечым адным, становіцца вінаватым ва ўсім. [11]Бо той, хто сказаў:
“*Не чужалож*”, — сказаў таксама: “*Не забівай*”. Дык калі ты не чужаложыш,
але забіваеш, становішся парушальнікам Закону. [12]Гаварыце і чыніце так, як
тыя, хто мае быць асуджаны паводле закону свабоды. [13]Бо суд без міласэрнасці
чакае таго, хто не чыніў міласэрнасці. Міласэрнасць вышэйшая за суд.

[14]Якая карысць, браты мае, калі нехта кажа, што мае веру, а ўчынкаў не
мае? Ці можа вера збавіць яго? [15]Калі брат ці сястра знаходзяцца ў галечы, не
маючы штодзённай ежы, [16]а нехта з вас скажа ім: «Ідзіце ў спакоі, грэйцеся і
насычайцеся», але не дасць ім неабходнага для цела, то якая з гэтага карысць?
[17]Так і вера без учынкаў мёртвая сама па сабе. [18]Але нехта скажа: «Ты маеш
веру, а я маю ўчынкі». Пакажы мне веру тваю без учынкаў, а я пакажу табе
веру маімі ўчынкамі. [19]Ты верыш, што ёсць адзін Бог? Добра робіш. Злыя духі
таксама вераць і дрыжаць! [20]Але ці хочаш ведаць, пусты чалавеча, што вера без
учынкаў мёртвая? [21]Ці не праз учынкі быў апраўданы айцец наш Абрагам, калі
прынёс свайго сына Ісаака на ахвярнік? [22]Ты бачыш, што вера супрацоўнічала з
яго ўчынкамі і дзякуючы ўчынкам вера ўдасканалілася. [23]Так споўнілася
Пісанне, якое кажа: «*Абрагам паверыў Богу, і гэта залічылася яму як
справядлівасць*», і ён быў названы сябрам Божым. [24]Бачыце, што чалавек
апраўдваецца праз учынкі, а не толькі праз веру. [25]Таксама і Рахаб, распусніца,
ці ж не ўчынкамі была апраўдана, калі прыняла пасланцоў і адправіла іх іншай
дарогай. [26]Бо, як цела без духу мёртвае, так і вера мёртвая без учынкаў.

## 3 (1-18)

[1]Браты мае, няхай нямногія з вас імкнуцца стаць настаўнікамі, ведаючы,
што будуць асуджаны больш сурова. [2]Бо ўсе мы спатыкаемся шмат у чым. Калі
хто не грашыць словам, гэта чалавек дасканалы, здольны ўтаймаваць таксама
ўсё цела. [3]Калі мы кладзем цуглі ў рот коням, каб яны слухаліся нас, то і кіруем
ўсім іхнім целам. [4]Вось і караблі, хоць такія вялікія і гоняць іх моцныя вятры,

аднак маленькае стырно скіроўвае іх, куды пажадае воля стырнавога. [5]Так і
язык — малая частка цела, а хваліцца многім. Паглядзі, які малы агонь
падпальвае вялізны лес! [6]І язык — агонь, свет несправядлівасці; язык,
змешчаны сярод нашых частак цела, апаганьвае ўсё цела і запальвае кола
жыцця, а сам запальваецца ад геены. [7]Бо ўсялякі від звяроў, птушак, паўзуноў і
марскіх стварэнняў утаймоўваецца і ўтаймаваны чалавечай істотай, [8]аднак
ніхто з людзей не можа ўтаймаваць язык — нястрымнае зло, поўнае смяротнай
атруты. [9]Ім мы благаслаўляем Пана і Айца і ім праклінаем людзей, створаных
на падабенства Божае. [10]З тых самых вуснаў выходзіць благаслаўленне і
праклён. Не павінна, браты мае, так быць. [11]Ці ж з той самай крыніцы выцякае
салодкая і горкая вада? [12]Ці можа, браты мае, смоква радзіць аліўкі, ці
вінаградная лаза смоквы? Так і салёная крыніца не можа даваць салодкай вады.
[13]Хто з вас мудры і разумны? Няхай добрымі паводзінамі пакажа свае
ўчынкі ў мудрай лагоднасці. [14]Але калі ў сэрцы вашым вы маеце горкую
зайздрасць і сварлівасць, то не хваліцеся і не хлусіце насуперак праўдзе. [15]Бо
гэта не мудрасць, якая прыходзіць звыш, але зямная, цялесная, д’ябальская.
[16]Дзе зайздрасць і сварлівасць, там бязладдзе і ўсякая ліхая справа. [17]А
мудрасць, якая прыходзіць звыш, найперш — чыстая, потым — міралюбная,
ласкавая, пакорлівая, поўная міласэрнасці і добрых пладоў, бесстаронняя,
некрывадушная. [18]А плод справядлівасці сеюць у спакоі тыя, хто чыніць
спакой.

## **4 (1-17)**

[1]Адкуль войны і змаганні сярод вас? Хіба не з пажадлівасцяў вашых, якія
змагаюцца ў частках вашых? [2]Жадаеце, а не маеце; забіваеце і зайдросціце, а не
можаце дасягнуць; змагаецеся і ваюеце. Не маеце, таму што не просіце;
[3]просіце, і не атрымліваеце, таму што дрэнна просіце, каб растраціць на
пажадлівасці свае. [4]Чужаложнікі, ці не ведаеце, што сяброўства з гэтым светам
— гэта варожасць з Богам?
Таму калі нехта хоча быць сябрам свету, ён становіцца ворагам Бога. [5]Ці
вы лічыце, што Пісанне дарэмна кажа: «Зайздрослівa прагне духа, які жыве ў
нас»? [6]Таму яшчэ большую дае ласку, паколькі кажа:
*«Бог супраціўляецца ганарыстым,*
*а пакорным дае ласку».*
[7]Таму пакарыцеся Богу, а супраціўляйцеся д’яблу, і ён уцячэ ад вас.
[8]Наблізьцеся да Бога — і Ён наблізіцца да вас. Ачысціце рукі, грэшнікі, і
асвяціце сэрцы, крывадушнікі. [9]Смуткуйце, плачце і галасіце. Няхай смех ваш
абернецца ў плач, а радасць — у сум. [10]Прынізьцеся перад Панам — і Ён
узвысіць вас.
[11]Браты, не абражайце адзін аднаго. Хто абражае ці асуджае свайго брата,
той абражае і асуджае закон. Калі ты асуджаеш закон, то ты не выканаўца
Закону, але суддзя. [12]Адзін ёсць заканадаўца і суддзя, які можа збавіць і
загубіць. А хто ты, што судзіш бліжняга?

[13]Вось цяпер вы кажаце: «Сёння ці заўтра адправімся ў пэўны горад і
правядзём там год, будзем гандляваць і зарабляць». [14]Між тым вы не ведаеце,
якім будзе заўтра жыццё вашае. Бо вы — па́ра, якая з’яўляецца на імгненне, а
потым знікае. [15]Замест таго, вы павінны былі б сказаць: «Калі Пан захоча, мы
будзем жыць і зробім тое ці іншае». [16]Вы ж цяпер хваліцеся ў ганарлівасці
вашай. Усялякае такое выхвалянне дрэннае. [17]Таму кожны, хто ведае, як рабіць
дабро, і не робіць, той чыніць грэх!

## 5 (1-20)

[1]Вось цяпер вы, багатыя, заплачце і загаласіце над вашымі няшчасцямі,
што прыходзяць да вас. [2]Багацце вашае згніло, і вопратку вашую патачыла
моль. [3]Золата ваша і срэбра паржавела, і ржа іх засведчыць супраць вас і з’есць
целы вашыя, як агонь. Вы сабралі скарб у апошнія дні. [4]Вось кліча плата, якую
вы затрымалі працаўнікам, што жалі палеткі вашыя, і крык жняцоў дайшоў да
вушэй Пана Магуццяў. [5]Вы жылі на зямлі ў распусце і раскошы, вы насыцілі
сэрцы вашыя ў дзень забою. [6]Вы асудзілі і забілі справядлівага. Ён не
супраціўляўся вам.
[7]Цярплівымі будзьце, браты, ажно да прыйсця Пана. Вось земляроб чакае
каштоўнага плоду зямлі і дзеля яго доўга церпіць, пакуль не атрымае *плод,
ранні і позні*. [8]Будзьце цярплівыя і вы, умацуйце вашыя сэрцы, бо набліжаецца
прыйсце Пана. [9]Не наракайце, браты, адзін на аднаго, каб не быць асуджанымі;
вось Суддзя стаіць пры дзвярах. [10]За прыклад вытрываласці і цярплівасці,
браты, вазьміце пракокаў, якія прамаўлялі ад імя Пана. [11]Вось, мы называем
шчаслівымі тых, хто выцерпеў. Вы чулі пра цярплівасць Ёва і бачылі яго
канчатковую ўзнагароду ад Пана, бо *Пан шматміласцівы і літасцівы*.
[12]Але перадусім, браты мае, не кляніцеся ні небам, ні зямлёю ці якою
іншаю клятваю. Няхай жа ваша «так» будзе «так», а ваша «не» будзе «не», каб
вам не патрапіць пад суд.
[13]Нехта сярод вас пакутуе? Няхай моліцца. Нехта радасны? Няхай спявае.
[14]Нехта сярод вас хварэе? Няхай пакліча прэзбітэраў Касцёла, а яны няхай
памоляцца над ім і намасцяць яго алеем у імя Пана. [15]І малітва веры ўратуе
хворага, і Пан падыме яго, і грахі, якія ўчыніў, будуць адпушчаны яму.
[16]Прызнавайцеся адзін аднаму ў грахах і маліцеся адзін за аднаго, каб быць
аздароўленымі; бо шмат можа шчырая малітва справядлівага. [17]Ілля быў
чалавекам, падобным да нас. Ён памаліўся малітваю, каб не было дажджу, і не
было дажджу на зямлі тры гады і шэсць месяцаў. [18]Пасля памаліўся зноў, і неба
спаслала дождж, а зямля дала плён свой. [19]Браты мае, калі хто з вас збочыў са
шляху праўды, а нехта вярнуў яго, [20]няхай ведае: хто вярнуў грэшніка з
аблуднага шляху яго, збавіць душу ягоную ад смерці і закрые мноства грахоў.